№ 13-14
(61-62)
Ліпень 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"




*27 ліпеня, у дзень, у які дзесяць гадоў таму была прынятая Дэкларацыя аб Незалежнасьці Беларусі, быў адкрыты помнік на магіле вядомага палітыка Генадзя Карпенкі, які так шмат зрабіў дзеля таго, каб Беларусь была самастойнай дзяржавай.*

# Незалежнасьць па-лукашэнкаўску

Ліпень — традыцыйны месяц адпачынкаў і палітычнага зацішша, вось ужо каторы год на Беларусі такім не зьяўляецца. Менавіта на ліпень прыпадае сьвята абвяшчэньня Беларусі незалежнай дзяржавай (27) і дзень сканчэньня тэрміну легітымнасьці як прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі (21). Сёлета ў ліпені прайшлі Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі (2) і Усебеларускі зьезд за незалежнасьць (29). І менавіта ў ліпені (13) А.Лукашэнка назваў дату чарговых парламенцкіх выбараў на Беларусі — 15 кастрычніка. Больш за год вяліся перамовы паміж дэмакратычнай апазіцыяй і ўладамі пры пасярэдніцтве прадстаўніцтва АБСЕ наконт беларускага выбарчага заканадаўства і ўдзелу апазіцыі ў выбарах. 7 красавіка гг. АБСЕ былі сфармуляваныя чатыры ўмовы дзеля правядзеньня законных, справядлівых і свабодных выбараў на Беларусі. Вось яны: пашырэньне функцыяў і паўнамоцтваў парламенту, забесьпячэньне рэальнага доступу палітычнай апазіцыі да дзяржаўных СМІ, прывядзеньне выбарчага заканадаўства ў адпаведнасьць да еўрапейскіх стандартаў і, апошняе, устанаўленьне клімату палітычнага даверу, што азначае спыненьне палітычных рэпрэсіяў і забесьпячэньне свабоды мірных сходаў і свабоды слова. На Кангрэсе дэмакратычных сілаў, у працы якога прынялі ўдзел усе апазіцыйныя партыі і рухі, была прынятая сьпецыяльная рэзалюцыя "Пра адносіны да выбараў", дзе яшчэ раз было адзначана, што толькі пасьля выкананьня вышэйзгаданых умоваў дэмакратычныя сілы прымуць удзел у парламенцкіх выбарах. У выпадку іх невыкананьня "Кангрэс лічыць немагчымым удзел у выбарах партыяў і арганізацыяў, што ўваходзяць у Каардынацыйную Раду дэмакратычных сілаў" і заклікае "міжнародныя арганізацыі, парламенты і ўрады дэмакратычных краінаў заявіць, што ў выпадку невыкананьня гэтых умоваў выбары ў Беларусі ня могуць быць прызнаныя легітымнымі і дэмакратычнымі".

Ніводзін з вызначаных АБСЕ і падтрыманых беларускай апазіцыяй пунктаў уладамі ня быў выкананы. Не было зроблена нават ніякіх захадаў дзеля гэтага. Ужо год як нелегітымны А.Лукашэнка праігнараваў іх і проста прызначыў дату выбараў. Пэўна, гэткім чынам ён прадэманстраваў сваю незалежнасьць ды самастойнасьць... Далей, выступаючы па Нацыянальным тэлебачаньні 22 ліпеня, памочнік А.Лукашэнкі С.Посахаў адкрытым тэкстам заклікаў выбаршчыкаў "ня даць апазіцыі прайсьці ва ўладу любымі спосабамі", а 26 ліпеня А.Лукашэнка прызначыў старшынёй Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі В.Чыкіна — даўняга ворага апазіцыйных і дэмакратычных сілаў, лідэра пралукашэнкаўскай Камуністычнай партыі Беларусі, якая адзіная пакуль абвясьціла пра свой удзел у выбарах. Такім чынам шлях

(Працяг на стар. 2)

## Хроніка

**_24 чэрвеня_ падчас правядзеньня рыцарскага фэсту ў Навагрудку (імітаваўся штурм Навагрудзкага замку крыжакамі і абарона замку беларускімі воямі) мясцовая міліцыя затрымала трох гасьцей з Брэсту з беларускім нацыянальным бел-чырвона-белым сьцягам. Сярод затрыманых Сяржук Бахун, Базыль Андрасюк, Юрась Шульган. Супрацоўнікі міліцыі сьцьвярджалі, што бел-чырвона-белы сьцяг "забаронены". У аддзяленьні міліцыі Базыль Андрасюк папрасіў паказаць нарматыўны акт, паводле якога забаранялася б выкарыстаньне нацыянальнага сьцягу – такога акту не існуе. Апроч таго, бел-чырвона-белы сьцяг быў вельмі дарэчы на гістарычным фэсьце, бо менавіта пад гэтымі колерамі ў сярэднявеччы выступалі абаронцы Навагрудзкага замку.**

**_26 чэрвеня_ ў Праваабарончы цэнтр "Вясна" зьвярнуўся Ян Грыб, які быў затрыманы 19 траўня каля будынку Гарадзкога суда г.Мінску падчас абвяшчэньня прысуду Міхаілу Чыгіру. Ён паведаміў, што на 22 чэрвеня ён быў выкліканы ў суд Фрунзенскага раёну г.Мінску, дзе ягоныя адміністратыўныя матэрыялы разглядала судзьдзя Вікторыя Сьцяпанава. На патрабаваньне Я.Грыба весьці судовы разгляд па-беларуску судзьдзя сказала, што яму будзе выпісаная позва на 4 ліпеня і забясьпечаны перакладчык. На патрабаваньне Я.Грыба ў сакратарыяце выпісаць яму позву па-беларуску "тры бойкія дзяўчыны" сталі хорам пагражаць скласьці на яго пратакол "за непавагу да суда" і прыцягнуць да адказнасьці. Абураны такімі адносінамі, Я.Грыб адмовіўся браць позву, напісаную на рускай мове, і пакінуў будынак суда.**

(Працяг на стар.6-7)

# Чарговае таямнічае зьнікненьне

## 7 ліпеня па дарозе ў Нацыянальны аэрапорт прапаў бяз вестак тэлеаператар расійскай кампаніі ГРТ Дзьмітры ЗАВАДЗКІ

Зьнікненьні дзеячаў апазіцыі сталі хранічнай хваробай беларускай дзяржавы. Мінулымі зімою і вясною ў недзяржаўнай прэсе была даволі папулярнаю дыскусія на тэму: "Хто наступны?" Называліся розныя імёны, але толькі ня Дзьмітрыя Завадзкага. Аднак "наступным" стаў менавіта ён. Прайшло больш за тры тыдні, а месцазнаходжаньне Дз.Завадзкага, нягледзячы на ўсе спробы ягоных сяброў і праваахоўчых органаў, не ўстаноўленае дагэтуль.

Група беларускіх праваабаронцаў, у тым ліку старшыня ПЦ "Вясна" Алесь Бяляцкі, прэзідэнт "Цэнтру па правах чалавека" Вера Страмкоўская, кіраўнік арганізацыі "Прававая дапамога насельніцтву" Алег Волчак, старшыня Мінскага аддзяленьня БХК Сьвятлана Мартоўская, вядомыя праваабаронцы Валеры Шчукін і Барыс Звоскаў, выступілі з заявай, у якой выказалі вялікую занепакоенасьць небясьпечнай тэндэнцыяй зьнікненьня людзей у Беларусі. Гэтая занепакоенасьць тычыцца лёсу ня толькі тэлеаператара Дзьмітрыя Завадзкага, але і зьніклых у мінулым годзе Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага. Аўтары заявы канстатуюць: "Колькасьць парушэньняў правоў і свабодаў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь павялічваецца; формы парушэньня правоў і свабодаў набываюць усё больш небясьпечныя рысы; дзяржаўная ўлада дэманструе няздольнасьць выконваць прынятыя на сябе абавязацельствы ў галіне абароны правоў і свабодаў сваіх грамадзянаў". Праваабаронцы запатрабавалі ад дзяржаўных органаў "спыніць самым рашучым чынам надзвычайную практыку замахаў на асабістую недатыкальнасьць і свабоду сваіх грамадзянаў".



Дзьмітры ЗАВАДЗКІ (зьлева) і Павел ШАРАМЕТ падчас адной з прэс-канферэнцыяў.

У сувязі са зьнікненьнем журналіста Дз. Завадзкага Кансультатыўная Рада апазіцыйных палітычных партыяў Беларусі пад старшынствам М. Статкевіча таксама прыняла заяву, у якой сказана: "Улада ўсё больш узмацняе націск на сродкі масавай інфармацыі, якія імкнуцца захаваць незалежнасьць... Мэта відавочная: пасеяць пачуцьцё страху, спарадзіць няўпэўненасьць у магчымасьці жыць і працаваць у краіне ў тых, хто імкнецца быць верным журналісцкаму абавязку, імкнецца праўдзіва асьвятляць падзеі, выказваць асабістае меркаваньне. Незалежна ад прычынаў і вінаватых зьнікненьне тэлежурналіста Дзьмітрыя Завадзкага спрыяе нагнятаньню такога страху". Кансультатыўная Рада апазіцыйных партыяў запатрабавала ў сваёй заяве неадкладных тлумачэньняў адносна заявы намесьніка кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі У.Замяталіна пра дачыненьне "радыкальнай апазіцыі" да зьнікненьня Дз. Завадзкага. "Дзеючая ўлада рабіла нямала абсурдных нападаў на апазіцыйныя партыі, але публічнае абвінавачаньне ў цяжкім крымінальным злачынстве, якім ва ўсім сьвеце лічыцца выкраданьне людзей, прагучала ўпершыню", – сказана ў заяве. Палітыкі заклікалі ўсіх супрацоўнікаў беларускай праваахоўчай сістэмы зрабіць усё ад іх залежнае дзеля пошуку зьніклых, а таксама адзначылі, што ствараемыя ўладамі ўмовы сацыяльнай і палітычнай напружанасьці ня могуць спрыяць усталяваньню клімату даверу ў краіне.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна".**

# Незалежнасьць па-лукашэнкаўску

*(Пачатак на стар.1)*

*апазіцыі ў электронныя СМІ,* бо нацыянальны тэлеканал адзін на Беларусі, заблакаваны.

Дзеяньні "незалежнага *ад міжнароднай грамадзкай думкі*" А.Лукашэнкі цалкам зразумелыя: для яго галоўнае любым чынам захаваць уладу. Сітуацыя ў краіне сёньня такая, што пры любым раскладзе свабодныя, роўныя, дэмакратычныя выбары ён прайграе. Народ стаміўся слухаць ягоныя абяцаньні ды запалохваньні. А дэмакратычны, законны парламент, відавочна, адразу ж паставіць пытаньне наконт паўнамоцтваў прэзідэнта...

Што ж тычыцца дзесяцігодзьдзя з дня прыняцьця Дэкларацыі аб Незалежнасьці Беларусі, *якое адзначалася 27 ліпеня,* дык гэтае, галоўнае сьвята любой дзяржавы, беларускія ўлады ў каторы раз праігнаравалі. *Больш за тое, зрабілі ўсё,* каб апазіцыйныя партыі і рухі не маглі афіцыйна адзначыць яго. Заяўкі на правядзеньне 27 ліпеня мітынгаў, *пікетаў, народных гуляньняў* былі не задаволеныя па ўсёй краіне. Толькі ў Мінску на плошчы Бангалор было дазволена ўвечары правесьці рок-канцэрт. Але правядзеньне яго апынулася пад пагрозай зрыву, бо падключыцца да электрычнасьці тут было амаль немагчыма.

І тым ня менш сьвята адбылося. Яго адзначалі ня толькі ў Мінску. У Гродне ў палацы культуры "Юнацтва" *прайшло ўрачыстае пасе*джаньне і сьвяточны канцэрт. У Магілёве былі вывешаны дзесяткі бел-чырвона-белых сьцягоў на вуліцах гораду. І хоць *урачыстае пасе*джаньне і канцэрт тут былі сарваныя міліцыянтамі, каля 100 чалавек са сьцягамі зрабілі шэсьце па цэнтры гораду. У Наваполацку, Ваўкавыску, Заслаўі прайшлі пікеты ды мітынгі. У Маладэчне, Баранавічах, Бабруйску ды іншых гарадах сьвяточныя мерапрыемствы былі сарваныя міліцыяй.

Усьведамляючы тое, што "незалежнасьць па-лукашэнкаўску" прамым шляхам вядзе да аб'яднаньня Беларусі з Расіяй і страты суверэнітэту, Усебеларускі зьезд, які адбыўся ў Мінску 29 ліпеня, *і на якім прысутнічала* 1350 дэлегатаў з усіх раёнаў краіны, прыняў адзіны дакумент — Акт Незалежнасьці Беларусі. У Акце дзяржаўны суверэнітэт *абвяшчаецца* неад'емнай каштоўнасьцю беларускага народу. Дэлегаты зьезду прызналі ня маючымі законнай сілы любыя пагадненьні *і рашэньні*, скіраваныя на скасаваньне альбо абмежаваньне суверэнітэту Беларусі і заклікалі ўсіх грамадзянаў Беларусі і ўсіх суайчыньнікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэяў Акта Незалежнасьці Беларусі, бараніць незалежнасьць Айчыны.

Гэта і ёсьць сапраўдная воля народу.

**Андрэй НАЛІВА.**

№13-14 (61-62)
Рэха
3 Права на волю Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"

# Алесь БЯЛЯЦКІ: "Да голасу народу ў Беларусі ня хочуць прыслухацца..."

***Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў (АДНА) паўстала на пачатку 1997 году як дабраахвотнае аб'яднаньне незалежных арганізацыяў, што ўваходзяць у грамадзкі сектар Беларусі, з мэтай каардынацыі іх дзеяньняў і супрацоўніцтва. З 1997 па 2000 год колькасьць арганізацыяў, якія ўваходзяць у Асамблею, павялічылася ў два разы – з 250 да больш чым 500. Арганізацыямі агульнанацыянальнага значэньня, якія зьяўляюцца сябрамі Асамблеі, можна назваць Беларускую асацыяцыю журналістаў, ПЭН-цэнтр, фонд Льва Сапегі, фонд "Дзецям Чарнобыля", Беларускі хельсінскі камітэт ды іншыя. Падобная вялікая структура ўзнікла ў Беларусі ўпершыню. Алесь Бяляцкі, старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна", уваходзіў у рабочую групу Асамблеі як кіраўнік гэтай няўрадавай арганізацыі, а сёлета ў канцы чэрвеня ён быў абраны старшынёй рабочай групы Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў. Нашая сёньняшняя размова з ім тычыцца дзейнасьці Асамблеі ў тым ліку і ў галіне абароны правоў няўрадавых арганізацыяў.***


Алесь БЯЛЯЦКІ. Фота "ПнВ"

***— Спадар Алесь, распавядзіце, калі ласка, пра становішча і значэньне трэцяга сектару.***

— Трэці сектар ва ўсім сьвеце займае вельмі істотнае і важнае становішча. Звычайна ў гэтым сектары аб'ядноўваюцца людзі па інтарэсах, якія маюць нейкую агульную ідэю, напрыклад, праваабарончага характару, арганізацыі, якія бароняць правы спажыўцоў, якія займаюцца разьвіцьцём самакіраваньня, аховай здароўя, сацыяльнымі пытаньнямі, нават разьвядзеньнем экзатычных кветак і г.д. Такія арганізацыі ва ўсім сьвеце традыцыйна называюцца трэцім сектарам (першы сектар улады, другі — бізнес, трэці – няўрадавыя арганізацыі, чацьвёрты – прэса). Такім чынам умоўна падзеленыя ўсе сацыяльныя сьферы, якія ахопліваюць чалавечае жыцьцё. У цывілізаваным сьвеце да тых праблемаў, якія падымаюцца грамадзкімі арганізацыямі, вельмі ўважліва прыслухоўваюцца, бо гэта – голас народу. Да таго ж гэта магчымасьць для дзяржавы кантактаваць з людзьмі праз падобныя арганізацыі, улічваць іхнія пажаданьні. Калі дзяржава дапамагае, а ў цывілізаваным сьвеце дзяржава звычайна вельмі шчыльна працуе з трэцім сектарам, ці не перашкаджае ягонай працы, прыслухоўваецца да праблемаў, якія ставяць такія грамадзкія арганізацыі, дык няма сацыяльнага напружаньня ў грамадстве, улада становіцца бліжэйшай да людзей, да народу. Атрымліваецца больш лагоднае, нармальнае існаваньне грамадства, звычайных грамадзянаў і ўлады.

***— Што назіраецца ў Беларусі ў грамадзкім сектары?***

— Асамблея была арганізаваная ў Беларусі з-за адчуваньня пэўнай небясьпекі да існаваньня грамадзкіх арганізацыяў. Нашыя ўлады не падтрымліваюць разьвіцьцё трэцяга сектару, і можна сказаць, што нават шмат у чым перашкаджаюць яму самымі рознымі спосабамі. Напрыклад, да мінулага году было зарэгістравана больш за 2 тысячы самых разнастайных аб'яднаньняў па інтарэсах. Дзяржава вырашыла ўзяць фармаваньне трэцяга сектару пад кантроль і дзеля гэтага вынайшла такі спосаб як перарэгістрацыя арганізацыяў, прычым значна яе ўскладніўшы. Больш за тое, канчатковае рашэньне пра рэгістрацыю такіх арганізацыяў прымае пазазаконная камісія (бо, паводле закону, такое рашэньне павінна прымаць Міністэрства юстыцыі), якая працуе ў нетрах выканаўчай улады. Камісію ачольвае вядомы "змагар за дэмакратыю ў Беларусі" палкоўнік у адстаўцы У. Замяталін. Працэс рэгістрацыі недзяржаўных арганізацыяў у нашай краіне немагчыма параўнаць з падобным працэсам у іншых дзяржавах. Арганізацыі рэгіструюцца па некалькі месяцаў, затрачваюцца істотныя сродкі на гэта, прыдумваюцца ўсялякія адчэпкі і падставы дзеля таго, каб найбольш непажаданыя арганізацыі не былі перарэгістраваныя. Не прайшла перарэгістрацыю значная колькасьць актыўных грамадзкіх арганізацыяў, напрыклад БАМП (Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў), "Беларуская перспектыва" і вельмі шмат малавядомых арганізацыяў, якія аб'ядноўвалі грамадзкую ініцыятыву. На сёньняшні дзень у Асамблею няўрадавых арганізацыяў уваходзіць большая палова аб'яднаньняў, якія не прайшлі гэтую перарэгістрацыю. Задача Асамблеі, якая была пастаўленая яшчэ на пачатку перарэгістрацыі ў 1999 годзе і актуальная цяпер, – дапамога ў рэгістрацыі такім арганізацыям, каб іх легітымізаваць, легалізаваць і пашырыць сьферу іхняй дзейнасьці. Такім чынам, адна з найважнейшых задачаў Асацыяцыі – абарона інтарэсаў і самога існаваньня арганізацыяў пры такіх неспрыяльных умовах, якія стварыла дзяржава для трэцяга сектару.

Супрацьстаяньне трэцяга сектару і дзяржавы зьяўляецца, на мой погляд, натуральным. Жаданьне аўтарытарнай дзяржавы кантраляваць абсалютна ўсё, што адбываецца ў краіне – партыі, прафсаюзы, недзяржаўныя арганізацыі — вынікае са страху, што тыя ініцыятывы, якія не адсочваюцца, прывядуць урэшце да нейкіх непажаданых вынікаў. Гэтае стаўленьне адрозьніваецца ад стаўленьня да грамадзкіх арганізацыяў у нармальных дэмакратычных краінах. Там назіраюцца партнёрскія адносіны, а не жаданьне зьнішчыць, растаптаць грамадзкую ініцыятыву — тое, што мы бачым пры сёньняшняй уладзе ў Беларусі. Гэта сьведчыць пра элементарную сацыяльную і палітычную нявыхаванасьць прадстаўнікоў гэтай улады і прэзідэнта, які задае адпаведны тон для сваіх выканаўчых структураў.

І адной з такіх правакацыяў у адносінах да трэцяга сектару можна лічыць так званы "дыялог" з грамадзкімі арганізацыямі. Я называю гэты "дыялог" сапраўды грамадзкай правакацыяй, таму што, перш за ўсё, гэта быў нераўнапраўны дыялог. Асамблея прыняла заяву ня ўдзельнічаць у ім, і да гонару абсалютнай большасьці арганізацыяў мы ня бралі ўдзелу ў гэтым дыялогу, а значная частка тых арганізацыяў, якія бралі ўдзел у ім, расчаравалася, прыйшла да высновы, што гэты "дыялог" быў арганізаваны толькі як дымавая заслона, каб паказаць фармальна, што ўлада вядзе нейкі дэмакратычны дыялог і перамовы з грамадзкімі арганізацыямі. На самой справе гэты "дыялог" аказаўся фарсам, і вынікі ягоныя былі такія мізэрныя, што значная частка арганізацыяў-удзельнікаў прызнала, што яны зрабілі памылку, узяўшы ў ім удзел.

Асамблея зьяўлялася адным з актыўных удзельнікаў Кангрэсу дэмакратычных сілаў Беларусі, і прадстаўніцтва Асамблеі ёсьць у Каардынацыйнай радзе. З вялікай увагай мы назіраем,

*(Працяг на стар. 5)*

# "Мы ня людзі, мы — рабочая жывёла..."

**Само жыцьцё вымушае простую беларускую жанчыну рабіць гэткую жахлівую выснову**

З Галінай Ажгірэвіч я пазнаёміўся выпадкова, падчас камандзіроўкі з зусім іншай нагоды. З чалавечымі трагедыямі мне даводзіцца мець справу рэгулярна, і адбываецца своеасаблівае эмацыянальнае прывыканьне да чужога болю. Як, скажам, у медыкаў. Праўда, жыцьцё і лёс Галіны могуць прымусіць расхваляваецца, пэўна, і цагляную сьцяну. Сваёй поўнай і канчатковай безвыходнасьцю...

## I.

З 1984 году Галіна працавала апэратарам газавай кацельні ў вёсцы Любкаўшчына Стаўбцоўскага раёну. З 1994 году яна хворая на цукровы дыябет. Работа апэратара — сезонная, летам Галіна працавала на збожжатаку і палола буракі. Летась у траўні медыкі прыйшлі да высновы, што жанчына ня можа займацца цяжкай фізічнай працай. Галіне выдалі даведку, што яна мае права на лёгкую працу. Ва ўмовах сельскай мясцовасьці гэта, пагадзіцеся, гучыць крыху сьмешна.

Так успрыняў параду ўрачоў і старшыня калгасу «Радзіма Я.Коласа» Канстанцін Каробка. Ён мог, напрыклад, пры ўсіх сказаць Галіне: «Ты гультайка і сімулянтка!» Мог нахабна зарагатаць у вочы: «Глядзіце, яна лёгкай працы хоча!» Канстанцін Аляксандравіч мог гэта сабе дазволіць, бо ён тут — усё, а Галіна Віктараўна — ніхто. У літаральным сэнсе.

Раз-пораз Галіна вымушаная класьціся прыкладна на месяц у бальніцу. Гэта неабходнасьць, іначай хвароба будзе хутка прагрэсіраваць. Зразумела, па лістку непрацаздольнасьці ёй ніхто ня плоціць — яна ня лічыцца працуючай. З-за таго, што Галіна асьмелілася зьвярнуцца да журналіста, пад «каток» трапіў і яе муж. Трактар у яго стары, амаль увесь час на рамонце. Зімою, бывала, муж прыносіў па 200-300 тысяч (да дэнамінацыі) рублёў заробку. Вельмі часта не было на што нават бохан хлеба купіць. Калі б ня летнія прыпасы, ня бульба з салам, сям'я б фактычна галадала.

У іх ёсьць прыёмны сын Славік. Яму зараз 12 гадоў. У яго хворае сэрца. Урачы кажуць, што можа разьвіцца парок сэрца. Каб гэтага ня здарылася, сына трэба лячыць — штогод вазіць у санаторый. Але Галіна ня можа адправіць яго нават у звычайны лагер дзеля адпачынку. Для гэтага трэба ўваходзіць у бліжэйшае акружэньне старшыні, тады будуць пуцёўкі куды трэба. Галіна ў акружэньне не ўваходзіць. Ёй застаецца маліцца, каб са Славікам нічога ня здарылася. Дзіця ёсьць дзіця: іншы раз просіць цукерак ці шакаладку. Галіна адказвае:«Сынок, я не магу купіць... Мы ня тыя людзі...» А пра сябе думае:«Мы ўвогуле ня людзі, мы — рабочая жывёла...»

## 2.

Летась у кастрычніку Галіну канчаткова звольнілі з працы: «скарацілі». Яна зьвярнулася ў Дзяржкамітэт РБ па працы. Прыехала камісія на чале з начальнікам упраўленьня В.Цурко. Галіну на рабоце аднавілі. Пасьля ад'езду камісіі на наступны ж дзень на работу яе не дапусьцілі. Галіна падала зыск у суд.

Дзяржкамітэт па працы, трэба прызнаць, абазваў Галіне дапамогу і абяцаў абарону яе правоў у судовых інстанцыях. Так і было. Але дапамагло мала. А ўсяго было тры судовыя паседжаньні. Першае — у сьнежні мінулага году. Яно прынесла такі вынік...

Зрэшты, не было ніякага выніку, бо судзьдзя растлумачыў Галіне: трэба яшчэ прайсьці стадыю вырашэньня праблемы ў камісіі па працоўных спрэчках. Дзякуй Богу, ёй вярнулі 2 мільёны рублёў судовых выдаткаў. На судзе Галіне спрабаваў дапамагаць прадстаўнік абкаму прафсаюзаў аграпрамысловага комплексу П.Стэльмах. Судзьдзя Космач проста выдаліў яго з залы і спытаў у жанчыны: ты што, не магла наняць адваката ў Стоўбцах? Праўда, адвакату трэба плаціць, чаго Галіна не магла сабе дазволіць зразумела чаму.

Галіна пачала праходзіць стадыю камісіі па працоўных спрэчках. Ёй прапанавалі работу начным вартаўніком на ферме за 3 кіламетры ад дому. З яе хворымі нагамі. Потым была прапанова працаваць цялятніцай ужо за 10 кіламетраў. Давялося б цягаць 40-літровыя бітоны ды мяхі з мукой. Назваць гэта лёгкай работай даволі цяжка.

Пры яе нязгодзе з такімі варыянтамі — паляводчая брыгада. Для даведкі: летась Галіна не змагла дапалоць свае рады буракоў, па руках пайшлі язвы. Так што варыянтаў пасутнасьці не было ніякіх. Што называецца, выбар бяз выбару...

Другое судовае паседжаньне адбылося ўжо ў Мінску і скончылася хутка: судзьдзя вырашыў, што яго калегі са Стоўбцаў не памыліліся...

## 3.

Трэцяе і апошняе паседжаньне праходзіла сёлета, 18 лютага. З калгасу «Радзіма Я.Коласа» высадзіўся шматлікі «дэсант» — 10 чалавек. Няцяжка здагадацца, што старшыня усіх праінструктаваў і паказаньні яны дружна давалі не на карысьць Галіны Ажгірэвіч, цяжка хворай жанчыны. Я падкрэслю, хворай, якая мае дакументальныя пацьвярджэньні стану свайго здароўя. Што аўтаматычна азначае: калі сьцьвярджалі сьведкі, што яна ня хворая, а сімулянтка, дык тым самым, яны давалі хлусьлівыя паказаньні. На што ёсьць адпаведны артыкул у Крымінальным кодэксе.

На баку Галіны выступілі толькі ўрачы Стаўбцоўскай раённай бальніцы. Р.Касабуцкая паведаміла, што дома чалавек можа рабіць што заўгодна, і калі яму стане дрэнна, за яго ніхто не адказвае. Калі падобнае здарыцца на рабочым месцы, адказ-


Фота "ПнВ"

насьць будзе несьці працанаймальнік.

«Высокі» суд вырашыў адправіць Галіну на ўрачэбна-кантрольную камісію — дакументаў, якія ўжо былі, падалося мала. Камісія пацьвердзіла свае першапачатковыя высновы: Галіна Ажгірэвіч можа працаваць апаратарам газавай кацельні, выключаючы начныя зьмены, цяжкую фізічную працу, камандзіроўкі і іншыя віды працы, якія парушаюць харчовы рэжым, а таксама працу, якая зьвязаная з нярвова-псіхічным напружаньнем.

Суд скончыўся заключэньнем міравога пагадненьня, прычым калгас абавязалі выплаціць Ажгірэвіч 22 мільёны рублёў. Галіна на гэта пайшла, бо стан здароўя падчас суда рэзка пагоршыўся: ціск быў 200 на 130. Такі ціск бывае перад гіпертанічным крызам, ад якога да інсульту — адзін крок.

Пасьля суда Галіна зьлягла ў бальніцу ў Бараўлянах, потым — у Беларускі НДІ экспертызы працаздольнасьці і арганізацыі працы інвалідаў. З атрыманымі там дакументамі яна пайшла да старшыні калгасу, каб нарэшце займець працу. Каробка зноў на яе крычаў (відаць, па-іншаму "працаваць" ён ня можа), пытаў, як яна ўвогуле можа прыходзіць да яго, такога заслужанага, крышталёвачыстага, са сваімі сімулянцкімі захадамі. Вось увесь вынік некалькіх судоў, камісіяў ды экспертызы...

**4.**

Як далей жыць — Галіна ня ведае. Старшыня з радасьцю паказвае ёй яе існае месца, недвухсэнсоўна тлумачыць, як яна павінна сябе паводзіць, каб мець кавалак хлеба. Іншымі словамі, ціха-ціха, прыніжана і з вечнай падзякай старшыні за тое, што яшчэ жыве.

Канстанцін Каробка — фігура цікавая, можна сказаць, знакавая. У савецкія часы ў ягоную гаспадарку рэгулярна езьдзілі разнастайныя дэлегацыі. Так старшыня займеў сур'ёзныя сувязі. Пасьля гэтага ён перастаў чаго-небудзь баяцца і не баіцца дагэтуль. Ён тут па сутнасьці феадал. Захоча ўзвысіць — узвысіць, захоча ўтаптаць у бруд — утопча. Ён феадал, калгасьнікі — прыгонныя. Шчыра кажучы, падобнае сярэднявечча ў чыстым выглядзе я назіраў упершыню, хаця пабачыць давялося шмат.

Галіна Ажгірэвіч вынесла сьмецьце з хаты. З адчаю, зразумела. Хоць ёй было вядома, што чалавек, звольнены Каробкам, працу ня зможа знайсьці ва ўсім Стаўбцоўскім раёне — такія шырокія сувязі ў Канстанціна Аляксандравіча і такія доўгія рукі. Ну, што ж, гэтым Галіна падпісала сабе прысуд. Яе цяпер мэтанакіравана зьнішчаюць. І, хаця ня хочацца ў гэта верыць, зьнішчаць.

Думаю, не памылюся, калі скажу, што па Каробку плача турма. Але ў турму саджаюць не такіх як ён, а такіх як Старавойтаў. Чаму? Таму што гэтаму рэжыму патрэбныя каробкі, а зусім не старавойтавы.

Яму можна ўсё, і яму дазваляюць усё за невялікую паслугу: каб трымаў прыгонных у руках і не дапускаў бунтаў. Інакш Лукашэнка і яго верныя нукеры могуць страціць самы надзейны электарат.

**Андрэй СЯРЖАН.**

# ІХ ЦІКАВІЦЬ МОЛАДЗЬ

***Беларускія сьпецслужбы актывізуюць ціск на грамадзка актыўную частку насельніцтва краіны***

Пра гэтую зьяву ў нашым грамадзтве неаднаразова паведамляў інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна". У ліпені зьявіліся новыя факты таго, якім чынам беларускі КДБ "працуе" з грамадзянамі нашай краіны.

У ПЦ "Вясна" зьвярнуўся старшыня Рады Маладзечанскай арганізацыі БНФ "Адраджэньне" Алесь Капуцкі, які паведаміў, што мясцовы КДБ пільна сочыць за асабіста ягонай дзейнасьцю і дзейнасьцю арганізацыі, якую ён узначальвае. А.Капуцкі ў сваёй заяве напісаў, што першы выклік з КДБ ён атрымаў яшчэ летась, падчас кампаніі па выбарах прэзідэнта РБ. А.Капуцкі сьцьвярджае, што ў г.Маладэчна КДБ актыўна займаецца палітычным вышукам. Яму вядомыя яшчэ некалькі актывістаў БНФ, на якіх аказваўся ўціск. Асабліва гэта тычыцца моладзі – сяброў Маладога Фронту. Трэба сказаць, што маладыя людзі таксама зьвярнуліся ў ПЦ "Вясна" з заявамі, у якіх прасілі абараніць іх ад уціску і спробаў вярбоўкі з боку КДБ.

У заяве студэнта Маладзечанскага політэхнічнага тэхнікуму Алеся Крука гаворыцца: "У пачатку траўня чалавек, які прадставіўся Барысам Пятровічам, знайшоў мяне падчас заняткаў у тэхнікуме і выклікаў на вуліцу дзеля размовы. Распытваўся пра Малады Фронт, чым ён займаецца, калі плануюцца нейкія мерапрыемствы, колькі ўдзельнічае чалавек... Гэты чалавек пакінуў свой тэлефон і сказаў, што калі будуць нейкія намеры ў мяне, каб я яму тэлефанаваў па тэл. 5-28-30".

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна".**

# "ДА ГОЛАСУ НАРОДУ Ў БЕЛАРУСІ НЯ ХОЧУЦЬ ПРЫСЛУХАЦЦА..."

*(Пачатак на стар. 3)*

як адбываецца падрыхтоўка да выбарчай кампаніі, таму што частка арганізацыяў, напрыклад, "Усебеларускі клуб выбаршчыкаў", сьпецыялізуецца на падрыхтоўцы насельніцтва да назіраньня за выбарамі, законным іх правядзеньнем. Усе праваабарончыя арганізацыі таксама зацікаўленыя ў тым, каб выбары праходзілі без парушэньняў. Рабочая група Асамблеі цьвяроза ацэньвае палітычную сітуацыю і падтрымлівае тыя рэзалюцыі, якія прыняў Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі, і перш за ўсё тое, што без выкананьня асноўных патрабаваньняў па дэмакратызацыі сітуацыі ў Беларусі, дэмакратызацыі выбарчага закону, павелічэньня паўнамоцтваў парламенту – і палітычныя партыі, і грамадзкія арганізацыі адмаўляюцца ўдзельнічаць у гэтым выбарчым фарсе. Я думаю, што Асамблея будзе прытрымлівацца гэтай пазіцыі на бліжэйшых выбарах, хаця варта адзначыць, што гэта не азначае, што мы нічога ня будзем рабіць, што наша пазіцыя будзе пасіўнай. Адзначу, што пазіцыя трэцяга сектару будзе актыўнай і мы зьбіраемся ўдзельнічаць у тых грамадзкіх кампаніях, якія будуць арганізаваныя з гэтай нагоды дэмакратычнымі сіламі.

***— Што было зроблена Асамблеяй дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў за гады існаваньня?***

— Асамблея зьбірае базу дадзеных на сяброў сваіх арганізацыяў і прадастаўляе гэтую базу іншым няўрадавым арганізацыям для каардынацыі сваіх дзеяньняў. Асамблея зьбліжае ўсе арганізацыі, становяцца зразумелымі агульныя праблемы, якія існуюць у гэтых арганізацыях, аб'ядноўвае сілы і робіць больш эфектыўнымі агульныя вынікі працы трэцяга сектару. Любая арганізацыя, якая б яна ні была моцная, можа пацярпець з-за агульнай неспрыяльнай атмасьферы для трэцяга сектару.

Асамблея выдае штомесячны бюлетэнь, у якім абмяркоўваюцца праблемы разьвіцьця няўрадавых арганізацыяў, ставяцца найбольш істотныя і гарачыя пытаньні разьвіцьця няўрадавага сектару, разьмяшчаюцца матэрыялы арганізацыяў, якія ўваходзяць у Асамблею.

Важна тое, што і на абласным узроўні адбылося аб'яднаньне няўрадавых арганізацыяў – створаныя абласныя асамблеі няўрадавых арганізацыяў, якія каардынуюць дзейнасьць грамадзкіх арганізацыяў. Важна гэта таму, што адбылася структурызацыя Асамблеі, і абласныя арганізацыі зьяўляюцца значным чыньнікам дзейнасьці грамадзкага сектару.

***— Як складаюцца адносіны трэцяга сектару з дзяржавай?***

— Калі ўзяць да параўнаньня дзейнасьць недзяржаўных арганізацыяў у Швецыі, то на 30 працэнтаў там яны фінансуюцца дзяржавай. Гэта абавязковая ўмова дзеля існаваньня трэцяга сектару. У нас пра гэта немагчыма падумаць, але і мы ня хочам быць залежнымі ад дзяржавы, і асноўнае наша патрабаваньне – каб дзяржава не перашкаджала працы трэцяга сектару.

У краіне ствараюцца і "прыкормленыя" уладамі грамадзкія арганізацыі дзеля расколу, стварэньня адпаведных напружаных настрояў у трэцім сектары, але яны не адыгрываюць нейкай сур'ёзнай ролі ў трэцім сектары. Яны зьяўляюцца фактычна прадзяржаўнымі і ў значнай ступені дзяржаўнымі структурамі — той жа БПСМ, які фармальна зьяўляецца грамадзкай арганізацыяй, але на самой справе – цалкам дзяржаўная структура. Фінансуюцца яны з агульнага бюджэту рэспублікі, а гэта значыць, што фактычна грошы зьбіраюцца на арганізацыю з сумніўнымі метадамі і задачамі з усіх падаткаплацельшчыкаў Беларусі, якія акцэптуюць і не акцэптуюць іхнюю палітыку. Я гэта лічу няправільным.

**Гутарыла Тацяна РЭВЯКА.**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*23 чэрвеня* 26-гадовы Аляксей Паўціна быў арыштаваны людзьмі ў цывільным каля свайго дому на вул. Усходняй у Мінску, дзе ён жыве разам са сваёй бабуляй. Людзі ў цывільным прадставіліся супрацоўнікамі міліцыі, сказалі, што маюць інфармацыю, паводле якой Аляксей зьяўляецца сьведкам крадзяжу, і загадалі яму прайсьці з імі. А.Паўціна адмовіўся, бо ня ведаў нічога пра крадзёж. Тады яму надзелі кайданкі і адвезьлі ў аддзяленьне міліцыі, дзе пачалі выбіваць паказаньні – рабілі "ластаўку", зьбівалі. Адпусьцілі яго толькі ў чатыры гадзіны раніцы. Пасьля гутаркі з "ахоўнікамі парадку" у А.Паўціны былі цяжкія пашкоджаньні: сатрасеньне мозгу, зламаная ключыца, заплыло вока, сьляды зьбіцьця на твары і па ўсім целе. У такім стане А.Паўціна трапіў ў хірургічнае аддзяленьне 6-й клінічнай бальніцы. 26 чэрвеня айчым Аляксея Віталь Нешка падаў у пракуратуру Савецкага раёну заяву пра ўзбуджэньне крымінальнай справы супраць супрацоўнікаў міліцыі. У той жа вечар, каля 23.00 міліцыянты наведалі Аляксея Паўціну ў бальніцы. Што яны рабілі з Аляксеем – невядома. Калі 27 раніцай у бальніцу зьявіліся маці і айчым, каб адвезьці Аляксея на судмедэкспертызу, зрабіць гэта было немагчыма, бо пасьля начнога візіту хлопец быў пераведзены з хірургічнага аддзяленьня ў рэанімацыйнае. Маці і айчым Аляксея зьвярнуліся ў Праваабарончы Цэнтр "Вясна" з просьбай аказаць дапамогу ў аднаўленьні справядлівасьці.

*26 чэрвеня* ў калгасе "Дуброва" Сьветлагорскага раёну Гомельскай вобласьці механізатары распачалі стыхійны страйк. Усяго ў акцыі ўдзельнічала каля 30 чалавек. Людзі патрабавалі выплаты заробку, які не атрымлівалі з лютага бягучага году. Не спадзеючыся на тое, што калгас зможа выплаціць усю запазычанасьць адразу, людзі патрабавалі, каб выплацілі заробак хаця б за люты... Да 12 гадзінаў дня грошы знайшліся, і механізатарам выплацілі заробак. Пры гэтым паабяцалі выплаціць грошы і за сакавік.

*27 чэрвеня* ў Маскоўскім раённым судзе г.Мінску распачаўся суд над чатырма пікетоўшчыкамі — сябрамі Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Вяла паседжаньне судзьдзя Алена Тройніч. Суд над У. Рамаяоўскім цягнуўся каля 5 гадзінаў. Было відавочна, што судзьдзя ня ведала, якое прыняць рашэньне. Справа ў тым, што папера, якая была атрыманая з Мінгарвыканкаму ад намесьніка старшыні гэтай установы сп.Чыкіна, ня ўтрымлівала ў сабе адмовы ў правядзеньні пікету. Таму судзьдзя ўзяла "тайм-аут" і вынесла прысуд толькі на другі дзень у 12 гадзінаў. У.Раманоўскаму быў прысуджаны штраф 390 тыс. рублёў (каля 400 даляраў ЗША) за тое, што ён нібыта арганізаваў несанкцыянаваны пікет. Адміністратыўную справу ў адносінах да другога пікетоўшчыка Аляксея Радзівона, якога абараняў вядомы праваабаронца Валеры Шчукін, спынілі за адсутнасьцю складу правапарушэньня. Удзельніца пікету Галіна Ганчарык, якую абараняў Барыс Звозкаў (прадстаўнік БХК), была пакараная штрафам у 52 тыс. рублёў, а Людміла Бажок, якую абараняў прадстаўнік "Вясны" Барыс Гюнтэр, атрымала папярэджаньне.

*29 чэрвеня* Зьміцер Абадоўскі (сын дырэктара грамадзкага аб'яднаньня "Магілёўскі праваабарончы цэнтр" Сяргея Абадоўскага, які 15 сакавіка гг. быў асуджаны судом Цэнтральнага раёну г.Магілёву да 5 гадоў 3 месяцаў пазбаўленьня волі па крымінальнай справе, зьвязанай са "згвалтаваньнем і двума крадзяжамі з пранікненьнем у кватэры") перадаў на волю з турэмнай установы УЖ 15/СТ-4, дзе ён цяпер знаходзіцца, заяву, у якой сказана: "Рашуча заяўляю, што з 30 чэрвеня 2000 г. пачынаю бестэрміновую галадоўку пратэсту супраць прававолу бязьмежжа, арганізаванага ўладамі ў адносінах да мяне і маёй сям'і". Зьміцер Абадоўскі сьцьвярджае, што крымінальны перасьлед яго зьвязаны "з палітычнымі мэтамі магілёўскіх уладаў у адносінах да бацькі, які працяглы час займаецца праваабарончай дзейнасьцю, а таксама апазіцыйнай дзейнасьцю брата, які атрымаў палітычны прытулак у Польшчы".

*7 ліпеня* па дарозе ў Нацыянальны аэрапорт "Мінск-2" зьнік тэлеаператар расійскага тэлеканалу ГРТ Дзьмітры Завадзкі. Беларускае тэлебачаньне адразу агучыла некалькі версіяў прычынаў зьнікненьня вядомага журналіста: гэта "чачэнскі сьлед" (перад гэтым Дз.Завадзкі разам з П.Шараметам здымаў фільм пра Чачню), гэта спроба П.Шарамета прыцягнуць увагу да сваёй асобы напярэдадні выбараў у парламент, гэта правакацыя беларускай апазіцыі, якая жадае зьняславіць ўладныя структуры... Былі і іншыя версіі. Іх шматлікасьць ці ня сьведчыць пра тое, што ўлады нейкім чынам загадзя ведалі пра "зьнікненьне Дз.Завадзкага".




*29 ліпеня ў Мінску адбыўся Усебеларускі зьезд за Незалежнасьць. У ім прыняло ўдзел 1350 дэлегатаў ад усіх рэгіёнаў Беларусі. Зьезд прыняў адзіны дакумент — Акт Незалежнасьці Беларусі. На зьезьдзе прысутнічалі замежныя дыпламаты, зьезду даслалі свае прывітаньні Івонка Сурвіла, Васіль Быкаў, Сямён Шарэцкі, Зянон Пазьняк, а таксама прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел.*



*7 ліпеня* сябра Гродзенскага Маладога Фронту Валеры Кісель прыехаў у г.Мінск, каб узяць удзел у семінары, арганізаваным Асамблеяй беларускіх няўрадавых арганізацыяў сумесна са швецкімі калегамі на тэму "Удасканаленьне працы беларускіх няўрадавых арганізацыяў". У ноч з 5 на 6 ліпеня (прыкладна ў 2 гадзіны 35 хвілінаў) ён быў затрыманы патрулём Партызанскага РУУС г.Мінску каля 5-га тралейбуснага дэпо. Прычынай затрыманьня стала тое, што патруль, які праязджаў міма, убачыў, што сем тралейбусаў з дэпо размаляваныя надпісамі "Жыве Незалежная Беларусь!" і вырашыў, што гэта зрабілі трое маладых людзей, якія апынуліся побач. Двое сяброў В.Кісяля пасьпелі зьбегчы, а ён быў схоплены супрацоўнікамі міліцыі. Пры затрыманьні, як пазьней напісаў у сваёй заяве ў ПЦ "Вясна" В.Кісель, ён быў моцна зьбіты старэйшым лейтэнантам, што кіраваў патрулём. Затрыманы быў адвезены ў Партызанскі РАУС, дзе з ім "працавалі" ня толькі міліцыянты, але і супрацоўнікі КДБ. Міліцыянты дапытвалі наконт правапарушэньня, якое яны вызначылі як "дробнае хуліганства", а КДБістаў (а іх было каля сямі чалавек) больш цікавіла асоба затрыманага, ягоная грамадзянская і палітычная пазіцыя і перакананьні. Міліцыянты двойчы складалі пратаколы аб адміністратыўным правапарушэньні, але Валеры адмаўляўся іх падпісваць, не прызнаючы сваёй віны. Толькі ў 17 гадзінаў дня начальнікам аддзелу правапарадку Партызанскага РАУС В.Кісялю было прызначанае пакараньне – 2 тысячы рублёў штрафу — па арт. 156 КаАП РБ – "дробнае хуліганства". Такім чынам, не даказаўшы вінаватасьці В.Кісяля, яго пратрымалі амаль 15 гадзінаў у пастарунку, прызналі правапарушальнікам і выпісалі мінімальны штраф.

*13 ліпеня* ў "маладым" парку г.Баранавічы (Брэсцкая вобласьць) з 17.15 да 18.15 сябры БНФ "Адраджэньне" і ПЦ "Вясна" правялі акцыю салідарнасьці з настаўнікамі: пікет "Настаўнікам школаў – годнае жыцьцё". Удзельнічала ў пікеце 10-15 чалавек, якія трымалі ў руках плакаты і транспаранты з лозунгамі: "Бедны настаўнік – недавучаныя дзеці – бедная дзяржава", "Дзяржава, твая будучыня ў руках настаўніка", "Настаўніку – годную, належную зарплату" ды інш. На акцыі раздаваліся бюлетэні "Права на волю" і "Навіны", а дзецям – надзьмутыя паветраныя шарыкі з надпісамі: "Беларусь – наш дом", "Беларусь – наш дом, наш храм", "Беларусь – гэта сьвятое", "Жыве Беларусь!" і інш. Акцыя прайшла арганізавана і шматлюдна.

Прысутнічалі прадстаўнікі мясцовых недзяржаўных СМІ, карэспандэнты Радыё "Свабода" і "Рацыя". Гэтым разам абышлося без затрыманьняў і позваў у суд.

*15 ліпеня* стала вядома, што Сяргей Абадоўскі спыніў галадоўку. Праз свайго бацьку С.Абадоўскага, які зьяўляецца ягоным абаронцам, ён перадаў ліст з падзякай беларускім праваабаронцам: старшыні ПЦ "Вясна" А.Бяляцкаму, прэзідэнту "Цэнтру па правах чалавека" В.Страмкоўскай, кіраўніку ГА "Прававая дапамога насельніцтву" А.Волчаку, старшыні Мінскага адзьдзяленьня БХК С.Мартоўскай, а таксама В.Шчукіну і Б.Звоскаву, якія падтрымалі яго ў цяжкі час. У лісьце сказана: "Дзякуючы Вашаму ўдзелу мая галадоўка не засталася без увагі, і пракуратурай пачатае расьсьледваньне законнасьці абвінавачваньня супраць мяне, а таксама на 18 ліпеня прызначаны касацыйны разгляд маіх скаргаў. Акрамя таго, мая справа ўзятая на кантроль КНГ АБСЕ у Беларусі".

*18 ліпеня* скончыўся суд над удзельнікамі інфармацыйнай групы Мінскай раённай арганізацыі БНФ "Адраджэньне" Алегам Скарабагатавым, Юрыем Зянковічам і Сяргеем Абакумчыкам. 4 чэрвеня яны ладзілі сустрэчу з намесьнікам старшыні БНФ Юрыем Хадыкам. Сустрэча павінна была адбыцца а 18-й гадзіне на рынкавай плошчы г.Заслаўе, пра што была вусная дамоўленасьць з начальнікам гарадзкой міліцыі Марозавым і намесьнікам старшыні мясцовага гарвыканкаму Бухавец. У 17.30, калі А.Скарабагатаў, Ю.Зянковіч і С.Абакумчык запрашалі жыхароў гораду на сустрэчу з лідэрам апазіцыі, да іх пад'ехаў нарад міліцыі, які праверыў дакументы ў маладых людзей і ня выказаў ніякіх прэтэнзіяў. Праз пяць хвілінаў пасьля гэтага міліцыянты вярнуліся да арганізатараў сустрэчы і запрасілі праехаць у гарадзкое аддзяленьне міліцыі "дзеля гутаркі з начальнікам міліцыі". У аддзяленьні іх сустрэў намесьнік начальніка міліцыі Андрыянаў, які загадаў скласьці пратаколы на затрыманых па арт. 167-1 КаАП РБ, а сам накіраваўся на месца запланаванай сустрэчы. У 19 гадзін ён вярнуўся з рынкавай плошчы і загадаў адпусьціць маладых людзей. Незаконна затрыманыя А.Скарабагатаў, Ю.Зянковіч і С.Абакумчык накіравалі ў Мінскую раённую пракуратуру скаргу. На першым паседжаньні 10 ліпеня справа С.Абакумчыка была накіраваная на дапрацоўку ў гарадзкі аддзел УС г.Заслаўя, бо пратакол, складзены на яго, нікім ня быў падпісаны. 18 ліпеня судзьдзя Зьміцер Грыцэль, выслухаўшы бакі, вынес наступнае рашэньне: спыніць справу ў адносінах да А.Скарабагатава за атсутнасьцю складу праварушэньня, Ю.Зянковічу – вынесьці папярэджаньне па арт. 167-1 КаАП РБ (арганізацыя несанкцыянаваных сходаў, мітынгаў, шэсьцяў і пікетаваньня). Справа Сяргея Абакумчыка накіраваная на дапрацоўку.

*19 ліпеня* Грамадзкае аб'яднаньне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" атрымала пісьмовае папярэджаньне з Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь. Прычынамі дзеля вынясеньня такога рашэньня сталі дзьве заўвагі, а дакладней, "парушэньні артыкулаў 4 і 12 Закону РБ "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях", на якія ўказваецца ў дакуменце. Першая: ТБМ карыстаецца бланкам, на якім назва гэтай арганізацыі "не адпавядае статутнай". (У пасьведчаньні аб рэгістрацыі, што было выдадзенае Мінюстам, пазначана: "Грамадзкае аб'яднаньне "Таварыства беларускай мовы рэспубліканскае", але ўжываньне назвы "рэспубліканскае" на бланку Міністэрства юстыцыі палічыла за парушэньне). Другая: на пячатцы арганізацыі "разьмешчаная сімволіка, якая адрозьніваецца ад зарэгістраванай". Справа ў тым, што на пячатцы зьмешчаная эмблема ТБМ, але без гербу "Пагоня" і бел-чырвона-белай стужкі. У лісьце не тлумачыцца, ці хацелі б чыноўнікі з Міністэрства юстыцыі бачыць "Пагоню" са сьцягам, ці яны ўказваюць на тое, што пячатка павінна цалкам адпавядаць эмблеме арганізацыі... Міністэрства юстыцыі папярэдзіла ТБМ, што ў выпадку паўторнага на працягу году ўчыненьня дзеяньняў, за якія вынесенае папярэджаньне, можа быць узьнятае пытаньне аб ліквідацыі гэтай грамадзкай арганізацыі.

*20 ліпеня* ў ПЦ "Вясна" прыйшоў ліст, у якім намесьнік начальніка Упраўленьня грамадзкіх аб'яднаньняў Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь сп-ня А.Караткова запатрабавала інфармацыю адносна ўдзелу сяброў праваабарончай арганізацыі ў рабоце Канферэнцыі "Праблемы судовай абароны правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь", якая адбылася сёлета 3-4 чэрвеня. Гэтая канферэнцыя, арганізаваная "Цэнтрам па правах чалавека", які ўзначальвае адвакат Вера Страмкоўская, прайшла ў спартовым комплексе "Раўбічы" з удзелам беларускіх і расійскіх праваабарончых арганізацыяў (у тым ліку і ПЦ "Вясна"), судзьдзяў розных судоў, натарыюсаў, адвакатаў, юрыстаў розных накірункаў дзейнасьці, выкладчыкаў юрыдычных дысцыплінаў, студэнтаў правазнаўчых факультэтаў юрыдычных ВНУ. На канферэнцыі была прынятая рэзалюцыя, у якой адзначалася, што сітуацыя з захаваньнем грамадзянскіх правоў, гарантаваных Канстытуцыяй РБ і міжнароднымі актамі, ратыфікаванымі РБ, робіцца горшай; судовая сістэма Беларусі не адпавядае прынцыпам дэмакратычнай дзяржавы, не зьяўляецца незалежнай галіной улады, не забясьпечвае рэальную абарону грамадзянскіх правоў; заканадаўства РБ значна зьмянілася ў бок пагарджаньня асноўнымі правамі і свабодамі. Пэўна, гэтая рэзалюцыя, прынятая на канферэнцыі, і не дае спакою чыноўнікам Міністэрства юстыцыі, таму і зьявіліся такія лісты-патрабаваньні "аб прадстаўленьні інфармацыі" у праваабарончыя арганізацыі, якія бралі ўдзел у ёй. А магчыма, рыхтуюцца і нейкія санкцыі адносна яе арганізатараў ды ўдзельнікаў.

*У ноч з 23 на 24 ліпеня* быў абрабаваны офіс Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". Невядомыя злачынцы ўзламалі ўваходныя дзьверы і ўкралі кампутарны блок з інфармацыйнай базай "Бацькаўшчыны", створанай за дзесяць гадоў існаваньня арганізацыі, а таксама новы лазерны прынтар і тэлефакс. За апошнія тры месяцы гэта трэцяе па ліку абрабаваньне грамадзкіх арганізацыяў. Раней ад рабаўнікоў пацярпелі праваабарончыя арганізацыі "Прававая дапамога насельніцтву" і Цэнтр па правах чалавека.

*25 ліпеня* скончыўся судовы разгляд справы грамадзкага аб'яднаньня "Рэгіянальны цэнтр грамадзкіх ініцыятываў" супраць Упраўленьня юстыцыі Мінаблвыканкаму. Суд прызнаў рашэньне прэзідэнцкай камісіі па рэгістрацыі грамадзкіх аб'яднаньняў незаконным і абавязаў Упраўленьне юстыцыі зарэгістраваць арганізацыю на працягу месяца.

*У ліпені* Фрунзенская раённая пракуратура г. Мінску прад'явіла абвінавачаньне жонцы былога прэм'ер-міністра РБ, палітвязьня Міхаіла Чыгіра Юліі Чыгір па двух артыкулах КК РБ. Яе палічылі вінаватай ва ўмяшальніцтве ў дзеяньні міліцыянтаў і аказаньні супраціўленьня міліцыянтам. Ю.Чыгір пагражае цяпер зьняволеньне на тэрмін да двух гадоў. Нагадаем, што інцыдэнт, за які хочуць пакараць Ю.Чыгір, адбыўся 19 траўня гг., калі міліцыянты не прапускалі Ю.Чыгір і яе сыноў у залу суда, дзе павінны былі зачытаць прысуд М.Чыгіру. Ю.Чыгір укусіла за вуха міліцыянта, які гвалтам адцягваў яе ад будынку суда. Сьледчы Фрунзенскай пракуратуры Д.Шкарпута ўзяў з Ю.Чыгір падпіску аб нявыезьдзе.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна».**




*27 ліпеня ў Мінску адбыўся рок-канцэрт папулярных беларускіх гуртоў, які меў назоў "Дзесяць гадоў — дзесяць хітоў" і быў прысьвечаны дзесятай гадавіне абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі.*



# “Замкнёнае кола”,

## АЛЬБО ЦІ МОЖА ГРАМАДЗКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ АДСТОЯЦЬ ПРАВА НА СВАЁ ІСНАВАНЬНЕ

Складаная сітуацыя склалася сёньня ў трэцім, грамадзкім, сектары Беларусі. Дзяржаўнымі структурамі ён фактычна падзелены на “сваіх” і “чужых”. Прадзяржаўным грамадзкім аб’яднаньням, якія абслугоўваюць ідэалогію ўлады, ствараюцца самыя спрыяльныя ўмовы дзеля працы, раздаюцца розныя ільготы, а тым, хто імкнецца захаваць незалежнасьць і рэалізоўваць грамадзкую ініцыятыву самастойна – пагражае зьнішчэньне. Дзеля гэтага выкарыстоўваюцца розныя спосабы, адзін з якіх – рэгістрацыя і перарэгістрацыя грамадзкіх аб’яднаньняў, што былі распачатыя пасьля ўвядзеньне ў дзеяньне Дэкрэту Прэзідэнта РБ “Аб некаторых мерах па ўпарадкаваньні дзейнасьці палітычных партыяў, прафесійных саюзаў, іншых грамадзкіх аб’яднаньняў”. Створаная А.Лукашэнкам пазазаконная камісія, якую ўзначальвае Ул. Замяталін, прымае канчатковае рашэньне – будзе ці ня будзе існаваць тая ці іншая арганізацыя.

Многія няўрадавыя арганізацыі не прайшлі “зачысткі”, але можна прывесьці прыклады таго, як некаторым з іх удалося адстаяць сваё права на існаваньне. Адна з іх – “Рэгіянальны цэнтр грамадзкіх ініцыятываў”, якой давялося гэтае права даказваць у судзе.

“Рэгіянальны цэнтр грамадзкіх ініцыятываў”, які ўзначальвае Алесь Капуцкі, распаўсюджвае сваю дзейнасьць на Валожынскі, Маладэчанскі, Вілейскі і Мядзельскі раёны. Арганізацыя ўзнікла сёлета ў лютым і фактычна зьяўляецца пераемніцай ранейшага “Цэнтру грамадзкіх ініцыятываў”, які не прайшоў перарэгістрацыі ўвосень мінулага году. Заснавальнікі, каб мець магчымасьць працягваць працу ў вызначаным раней накірунку, вырашылі стварыць новую арганізацыю. Мэта яе – спрыяньне фармаваньню грамадзянскай супольнасьці і садзейнічаньне ўмацаваньню арганізацыяў недзяржаўнага і некамерцыйнага сектараў у рэгіёне. Гэтая арганізацыя таксама зьяўляецца тыповым інфармацыйна-рэсурсавым цэнтрам рэгіёну.

У пачатку лютага гэтага году заснавальнікамі былі пададзеныя дакументы на рэгістрацыю “Рэгіянальнага цэнтру грамадзкіх ініцыятываў” ва Упраўленьне юстыцыі Мінаблвыканкаму. Пасьля дапрацоўкі і выпраўленьня ўказаных недахопаў у Статуце Упраўленьне юстыцыі зрабіла заключэньне, што перашкодаў дзеля рэгістрацыі арганізацыі няма, і перадало дакументы ў Камісію па рэгістрацыі, створаную А.Лукашэнкам. Праз некаторы час прыйшло заключэньне гэтай камісіі, што ў рэгістрацыі трэба адмовіць, хаця ніякіх прычынаў чаму “трэба” — не называлася. Але паколькі, згодна з Дэкрэтам, Упраўленьне юстыцыі павінна выконваць рашэньне гэтай камісіі, у рэгістрацыі “Цэнтру грамадзкіх ініцыятываў” было адмоўлена.

Заснавальнікі арганізацыі, нязгодныя з такім вынікам, падалі скаргу ў Мінскі абласны суд. Першае судовае паседжаньне адбылося 21 ліпеня. У якасьці адказчыка прысутнічаў прадстаўнік з Упраўленьня юстыцыі Мінаблвыканкаму, які прадставіў у якасьці адзінага аргументу дзеля адмовы — рашэньне камісіі. Калі судзьдзя Г.А.Комель пытаўся ў яго, якія Упраўленьне юстыцыі Мінаблвыканкаму мае прэтэнзіі па дакументах, прадстаўнік адказваў, што ніякіх прэтэнзіяў няма і іх заключэньне – рэгістраваць можна, але на пытаньне судзьдзі, ці лічаць яны абгрунтаванай скаргу, пададзеную на іх у суд, ён адказваў – не, бо Упраўленьне юстыцыі можа рэгістраваць толькі па заключэньні камісіі. Тут ужо нават судзьдзі давялося прызнаць, што атрымалася нейкае замкнёнае кола, і каб праясьніць сітуацыю ён вырашыў запрасіць на наступнае судовае паседжаньне прадстаўніка з камісіі з пратаколам, у якім была б выказаная матывіроўка адмовы.

25 ліпеня адбыўся працяг суда. Прадстаўнік з камісіі на судовае паседжаньне не зьявіўся, а калі супрацоўніца Упраўленьня юстыцыі зьвярнулася з запытам, каб ёй прадставілі пратакол таго паседжаньня, на якім разглядалася пытаньне аб адмове ў рэгістрацыі “Рэгіянальнага цэнтру грамадзкіх ініцыятываў”, ёй адказалі, што такія пратаколы не вядуцца. З камісіі прадставілі толькі выпіску з рашэньня, але без каментароў і тлумачэньняў.



Тое, што Камісія дае такія адмовы, нічым не матывуючы іх (хаця закон гэта прадугледжвае), прывяло і судзьдзю, і пракурора ў пэўнае замяшальніцтва і разгубленасьць. У гэтай сітуацыі нават пракурор стаў на бок істцоў, выносячы сваё заключэньне аб тым, што няма ніякіх прычынаў дзеля адмовы. І судзьдзі давялося прызнаць, што, паколькі адсутнічае матывіроўка адмовы, скарга заснавальнікаў арганізацыі абгрунтаваная і ў рэгістрацыі адмоўлена незаконна. Ён абавязаў Упраўленьне юстыцыі зарэгістраваць арганізацыю на працягу месяца (у выпадку, калі Упраўленьне юстыцыі не абскардзіць гэтае рашэньне ў Вярхоўным судзе).

**Тацяна РЭВЯКА.**

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.
Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі:
220013 Менск, а/с 49.
E-mail:viasna@spring96.org
www.spring96.org

У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Праваабарончага Цэнтру "Вясна"